


Сяброўкі-пяцікласніцы з Белавежы — Моніка, Аня і Агата.
Фота Я. Чэрнякевіч

№ 23 (1191) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 8.VI.1980 г.

**А. Буцень**

# САКРЭТ

Прыйшлі дзеці ў прадшколле, а на акне стаяць доўгія скрынкі з зямлёй.

— Гэта ў нас кветкі будуць? — спытала Вера ў выхавацелькі.

— Мы будзем іх садзіць? — падбегла Зіна.

— Вось і не адгадалі, — адказала выхавацелька. — Гэта будзе наш агарод.

Паснедалі дзеці і пабеглі да вокан. А выхавацелька прынесла некалькі пругкіх цыбулінак, кубачкі з набухлымі ў вадзе гарошынамі і фасолінамі і сказала:

— Садзіць будзем усе, па чарзе, у такім парадку, як сядзіце пры стале. На кожны стол — адна цыбуліна, а рэшта — гарох і фасоля.

— Мне цыбуліну! — крыкнуў Паўлік.

— А чаму табе? — пакрыўдзілася Каця.

— Я першы сказаў. Праўда, Вера?

Заспрачаліся дзяўчаткі з Паўлікам: заўсёды ён лезе наперад ды яшчэ крычыць.

— Дык і садзі сваю цыбуліну, — спыняючы спрэчку, сказала Зіна, якая сядзела пры адным стале з Паўлікам. — Толькі пасля нас, апошнім.

Выхавацелька дала Каці палачку.

— Спачатку зрабі ямку, — сказала. — Вось тут, у куточку. Ты першая пры стале сядзіш.

Капанула Каця палачкай — зрабіла ямку.

— А цяпер пакладзі ў ямку фасолінку і засып яе зямлёй.

Так і зрабіла Каця.

— А цяпер мая чарга, — праціснулася да акна Зіна, — мне гарошынку дайце.

І пасадзіла гарошынку.

А потым Вера пасадзіла сваю фасолінку. І толькі пасля гэтага Паўлік пасадзіў цыбулінку. Ён быў такім клапатлівым і старанным, быццам збіраўся выгадаваць цэлы агарод!

Так адзін за другім і пасадзілі дзеці ў скрынкі ўсё, што прынесла выхавацелька.

Прайшло некалькі дзён. Добра палівалі дзяжурныя зямлю, але раслінкі ніяк не хацелі ўзыходзіць. Можа, гарошыны кепскія былі.

— Калі праз некалькі дзён не прарасце мая фасолінка, дык прынясу сабе з дому лепшую, — сказала Вера.

Але хутка ў скрынцы паявіўся першы парастак.

— Гэта мая фасолінка ўзышла! — радасна і голасна паведаміла Каця. — Глядзіце! Вось, у самым куточку!

Яна смяялася і скакала, бегала па пакоі і кожнага цягнула да акна — паказвала маленечкі парастак.

Але не доўга цешылася Каця.



Прыйшла на наступны дзень у прадшколле — і адразу да акна. Глядзіць, а яе парастка няма. Заплакала Каця. Збегліся да яе ўсе дзеці, спрачаюцца, сварацца. Ніхто не ведае, куды падзеўся парастак.

— Можа, яму было холадна і ён зноў назад у зямлю схаваўся, — яхідна сказаў Паўлік.

— Вось выдумаеш, — накінуліся на яго дзеці. — Ці ж такое бывае?

— Не ведаю, — усміхнуўся Паўлік. — Дык куды ж ён падзеўся?

— Гэта яго нехта вырваў.

— Вядома, вырваў, — сказалі



ўсе адразу і пабеглі да выхавацелькі.

Усіх спытала выхавацелька, але ніхто не прызнаўся. Так і не знайшлі вінаватага.

— А ты не плач, Каця, — сказала выхавацелька. — Можа, твая фасолінка яшчэ пусціць парастак.

Засумавала Каця. І ўсім дзецям было непрыемна, быццам усіх пакрыўдзілі.

Адзін Паўлік не сумаваў і больш, чым заўсёды, бегаў, скакаў. Ганяўся па пакоі на кані, без канца пускаў па падлозе грузавік, а то і так сабе перашкаджаў дзецям бавіцца. Гэта ён учора, калі Каця пачала хваліцца сваім парасткам, узяў і вырваў яго. Каб не хвалілася.

А калі пабачыў, што Каця плача, што ўсе дзеці ходзяць сумныя, сам спалохаўся. А што рабіць — не ведае. Вось і вырашыў маўчаць. Можа абыдзецца.

Прыйшла праз некалькі дзён Каця ў прадшколле, а яе ўжо клічуць: хадзі паглядзі!

Падбегла яна да акна, а там, у скрынцы, дзе ўжо ўзышлі першыя парасткі, у самым куточку зелянее яшчэ адзін парастак. Маленечкі, быццам толькі ноччу вылупіўся.

Каця, узрадаваная, схілілася над ім. Які ж гэта быў цудоўны парастак — маленькі, далікатны, але жывы! Калі б ён умеў гаварыць, ён, вядома, сказаў бы: „Вось і я, здароў, Каця!“

Усе дзеці цешыліся за Кацю, і нават Паўлік цешыўся.

Калі ўсе разышліся, ён падыйшоў да Каці і ціхенька пацягнуў яе за локаць.

— Каця, ты не злуйся на мяне.

— За што?

— Гэта я тады... вырваў твой парастак.

— Ты?

— Угу, я. — І Паўлік вінавата кіўнуў галавой.

Калі б Паўлік сказаў раней ёй пра гэта, яна, магчыма, і вельмі раззлавалася б на яго. А сёння, калі ёй было так добра, яна сказала:

— Я табе таксама раскажу сакрэт. Хочаш? Толькі гэта мой сакрэт і выхавацелькі. — На нейкае імгненне яна задумалася. — Я тады з дому прынесла новую фасолінку. Перад гэтым я яе пасадзіла ў вазон з кветкай. Таму яна так хутка прарасла.

**Мікола Арочка**

## НА КАНІКУЛАХ

*Іду, як заварожаны,*
*А спеў плыве з-за гаці:*
*„Ці ўсе лугі пакошаны,*
*Ці ўсе сенажаці?..“*

*Касьба за Шчараю пяе,*
*Звініць над паплавамі.*
*Лугі надрэчныя мае,*
*Даўно я ў дружбе з вамі.*

*Тут мы падносілі касцам*
*З крыніц ваду жывую,*
*Давалі з берага нырца*
*З разбегу ў плынь рачную.*

*А ў восень кошыкі плялі*
*З ракіты на балотах*
*Або чмяліны мёд пілі*
*Саломінкамі з сотаў...*

*Мяне, як сябра тых гадоў,*
*Сягоння луг паклікаў.*
*І я на ўсіх дзяліць гатоў*
*Кароткі час канікул.*

*Здарова, хлопцы, ды хутчэй*
*Мяне ў свой гурт прымайце.*
*Не ўсе пакошаны яшчэ*
*Лугі і сенажаці!...*



**Л. Епанешнікаў**

## ЦУДОЎНЕЙШЫЯ БОТЫ

*Надзелі*
*Вадамеркі*
*Абутак*
*Дзіўнай меркі —*

*Цудоўнейшыя боты!*
*Ты, брат, на іх зірні!*

*Надзелі і —*
*На ваду*
*Не трэба ім і*
*Броду:*
*Бягуць*
*Сабе ў ахвоту,*
*Хто зможа, дагані!*

*Эх, мне б*
*Такія боты*
*Цудоўнейшай работы!*
*І тут мяне б адразу*
*Любы марак прызнаў!*

*Матросы ўсе крычалі б:*
*„Палундра! Мы адсталі!*
*Усе параходы разам*
*Той хлопчык перагнаў!“*

*І ўсім бы капітанам*
*Сказалі*
*Пасажыры:*
*„Вы дзіва-хлопца бачыце?*
*Ану, прыбаўце ход!“*

*І ўсе б тут капітаны*
*Сказалі*
*Пасажырам:*
*„Не можам,*
*Нам прабачце,*
*Ён —*
*Вада-хутка-ход!*

**З рускай мовы пераклаў**
**В. Гарбук**

Moderato mf ПРЫСВЯЧАЮ АЎТАРУ ТЭКСТУ

НЕ ПА-ЖАР ГА-РЫЦЬ НА ЎСХО-ДЗЕ ЗА ЧУП-РЫ-НА-МІ БЯ-РОЗ,

ГЭ-ТА СО-НЕЙ-КА ЎЗЫ-ХО-ДЗІЦЬ У ЗА-ЛА-ЦІС-ТЫМ БЛЯС-КУ

КОС, У ЗА-ЛА-ЦІС-ТЫМ БЛЯС-КУ КОС.

ЗАКАНЧЭННЕ f

ЗААРЭТКА 7 ТО ПЯ-Е ДУ-ША МА-Я.

# НЕ ПАЖАР ГАРЫЦЬ

**Словы Сяргея Новіка-Пеюна**
**Музыка Людмілы Панько**

Не пажар гарыць на ўсходзе
За чупрынамі бяроз, —
Гэта сонейка ўзыходзіць
У залацістым бляску кос.

Стройна, згодна, ў дружным ладзе
Загрымеў птушыны хор,
Як з аркестрам на парадзе
Ён вітае сонца ўсход.

На бярэзіне зялёнай,
Пераліўна неяк так,
Нізкім і высокім тонам
Развясёла свішча шпак.

Пах чаромхі ап'яняе,
А зірнеш — пад ёй уніз
Белай зоркаю бліскае
Паміж зелені нарцыз.

А там далей незабудкі,
Поруч шоўкавай травы,
Нешта шэпчуць нам ціхутка
Ў светлы ранак веснавы.

Як чароўная паненка,
У садзе яблынька стаіць,
Бела-ружова сукенка,
У косах сонца зіхаціць.

То не скрыпка чула грае,
То не трэлі салаўя,
Не я песенькі спяваю, —
То пяе душа мая.



# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ





## КАЛЕКЦЫІ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

...Ляснічы з Радама — уладальнік вялікай калекцыі птушыных яек. У яго зборах — яйкі 230 відаў птушак, што гнездзяцца ў Польшчы.

...Былы слесар, цяпер пенсіянер Л. Гудачак ператварыў сваю кватэру ў музей гадзіннікаў. Іх у яго больш за 120, некаторым ажно па 350 гадоў! Роўна ў поўдзень усе гадзіннікі пачынаюць гучаць на розныя лады: звоняць званы і званочкі, кукуюць зязюлі, а самы стары гадзіннік вітае поўдзень гукамі трубы.

...Венгерскі адвакат Іштван Пінтэр назбіраў больш за 100 смаўжоў. Яго калекцыяніраванню дапамагае сувязь з вучонымі многіх краін свету. Аднойчы ён атрымаў пасылку з Аўстраліі і Новай Зеландыі з рэдкімі экземплярамі смаўжоў.

...Масквіч Ігар Нежны, вядомы тэатральны дзеяч, сабраў каля 1000 алоўкаў, зробленых фабрыкамі 70 краін свету. Сярод іх — круглыя, плоскія, трохвугольныя, квадратныя, тоўстыя, тонкія, вялікія і малыя.

## НАЗВЫ З АДНОЙ ЛІТАРЫ

У Нарвегіі ёсць гарадок А. На Каралінскіх астравах — пасяленне І, у Францыі — вёска Ю. На тэрыторыі СССР ёсць рэчкі, назвы якіх складаюцца з адной літары, напрыклад, І — прыток Вашкі, якая ўпадае ў Мезень, Ю — у басейне Пячоры, Я — у нізоўях Обі.

## ПРЫМУЛА З ЯВЫ

На востраве Ява шмат вулканаў. А на іх склонах растуць незвычайныя кветкі — каралеўская прымула. Яна расцвітае буйна і прыгожа перад вывяржэннем вулканаў, нібы папярэджваючы сваім цвіценнем аб пагражаючай небяспецы.

## МУЗЫЧНАЯ СТУДНЯ

У балгарскай вёсцы Хлевена ёсць незвычайная студня. Час ад часу з яе выдабываюцца далікатныя меладыйныя гукі. Мясцовыя жыхары называюць студню музычнай. Узровень вады ў ёй то ўзнімаецца, то раптоўна падае. Вучоныя лічаць, што „музыка“ пачынае гучаць тады, калі вада ападае і з вялікай вышыні падае ўніз студні вялікая колькасць кропель.

## ПАШТОВЫЯ ЛАСТАЎКІ

У старажытным Рыме для перасылкі пісем на вялікую адлегласць выкарыстоўвалі ластавак. Яны лётаюць шмат хутчэй за галубоў.



# Каляровы клас

Калі б вам давялося быць у Навасадах, абавязкова загляніце ў школу і наведайце другі клас. Колькі там розных цікавых рэчаў можна ўбачыць!

Усе сцены класа завешаны стэндамі, вучнёўскімі дапаможнікамі, працамі вучняў, упрыгожаннямі. Усе прадметы, якія вывучаюць другакласнікі, тут прадстаўлены. А ўсё зроблена прыгожа, умела, па-мастацку.

І самі вучні адчуваюць сябе ў класе добра. Гавораць, што вучыцца цікава, а найбольш любімыя прадметы — матэматыка (выразна на першым месцы), малюнкі і асяроддзе, у якім жывем. Гэты апошні — гэта новы прадмет у малодшых класах, якія вучацца ўжо паводле праграмы для дзесяцігодкі.

Другакласнікі з Навасад вельмі ганарацца тым, што іменна ад іх пачынаецца ў школе новая дзесяцігодка. Яны так і напісалі, будучы яшчэ ў першым класе, у сваёй класнай хроніцы: „Мы — першыя з дзесяцігодкі." Гэтая хроніка вядзецца і цяпер, ужо ў другім класе, і будзе даведзена аж да дзесятага. З гэтай мэтай на пачатку хронікі ўсе дзеці замясцілі свае фатаграфіі пад супольным загалоўкам „Так мы выглядаем на старце", каб потым, праз дзесяць год магчы замясціць свае фотаздымкі пад загалоўкам „А так выглядаем на мэце". Цікава, праўда, як яны будуць выглядаць на мэце, канчаючы дзесяцігодку?

Пад кіраўніцтвам сваёй выхавацелькі пані Гэлены Сасноўскай дзеці з другога класа рыхтуюць у школе ўсе ўрачыстасці. Развучваюць песні і вершы, робяць дэкарацыі, а потым прыходзяць у школу ўсе аднолькава прыбраныя ў белыя блузкі і кашулькі са стужачкамі пад барадой і сінія спаднічкі і нагавіцы ў хлопцаў. Такія яны ўсе прыгожыя тады, усхвалёваныя.

У некаторых вучняў на левай грудзі прычэплены чырвоныя значкі з малюнкам раскрытай кніжкі. Такі значок вы бачыце на здымку ў гаспадыні класа Дароткі Гіншт. Гэта адзнака здабыта ў чытальніцкім конкурсе. На класным стэндзе пад назвай „Чытальніцкі конкурс" напісаны прозвішчы ўсіх

*(Працяг на стар. 8)*



(Працяг са стар. 7)

## КАЛЯРОВЫ КЛАС

вучняў, а пад імі — малюнкі рыбкі. Кожная прачытаная кніжка кладзецца новай лускай на рыбцы. Колькі лусак — столькі прачытаных кніжак. Увесь клас імкнецца замаляваць лускамі свае рыбкі. Дабіліся гэтага ўжо чатыры дзяўчынкі — Даротка Гінш, Бася Баўтрамюк, Люцына Леўчук і Крыстына Явюк. Пакуль што дзяўчынкі лепшыя. Але хлопцы ўжо абяцалі, што так лёгка не дадуцца. У наступным годзе — напэўна будуць першыя.

Цікава, ці ім гэта ўдасца, бо дзяўчаткі ў гэтым класе баявыя!

**Яніна Чэрнякевіч**

## Пазнаёмімся

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 93, кв. 83. Алена Церапішчая, 15 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 75, кв. 15. Ірына Кунцэвіч, 14 гадоў.

* * *

Іра Анхім, вучаніца сёмага класа, Шымкі 38, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Аля Кардаш, вучаніца сёмага класа, в. Навасады 44, пошта 16-054 Ялоўка, Беластоцкае ваяводства.

## АДГАДАНКА




**Памажыце дзецям знайсці на малюнку згубленыя прадметы: акуляры, лятавец, парасон, шапку, скарбонку, сумку, ракету і мяч.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**